

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 20(354) | 27 ТРАЎНЯ 1998 г.

## Прэзентацыя ўнікальнай кнігі

У Дні навукі, якія штогод праводзяцца ў канцы красавіка — пачатку траўня ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы, адбылася прэзентацыя новай кнігі загадчыка кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства, доктар філалагічных навук, выдатніка народнай асветы Беларусі Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" (Гродна: ГрДУ, 1998.— 295с.). На гэтае свята навукі прыйшлі выкладчыкі і студэнты універсітэта, вядомыя навукоўцы і грамадскія дзеячы горада Гродна, журналісты, супрацоўнікі абласнога тэлебачання і радыё.

У вялікай аўдыторыі, цалкам запоўненай прысутнымі, можна было ўбачыць разгорнутую выставу шматлікіх кнігаў прафесара Паўла Сцяцко; сярод іх манаграфіі, навучальныя дапаможнікі і падручнікі, слоўнікі, а таксама кнігі з артыкуламі Паўла Уладзіміравіча, сярод іх: "Беларуская мова: Энцыклапедыя", дзе змешчаны артыкулы П.Сцяцко і нарыс пра яго, "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва", дзе таксама ёсць артыкул пра П.Сцяцко, і шэраг міжнародных выданняў з артыкуламі Паўла Уладзіміравіча; часопісы і навуковыя зборнікі.

Першым на прэзентацыі (гэтае слова бытавала яшчэ ў старажытнай беларускай мове як адпаведнік сучаснага "прадстаўленне") прагучала слова дэкана філалагічнага факультэта Тамаша Тамашэвіча, кандыдата філалагічных навук, дацэнта, аўтара трох кніжак па культуры мовы і шэрагу манаграфіяў па гісторыі беларускага мовазнаўства і фразеалогіі, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў ВНУ і школьнікаў. Дэкан зазначыў, што прафесар П.У. Сцяцко 40 гадоў змагаецца за чысціню і натуральнасць беларускай мовы. Беларускае слова для яго — само жыццё, а каб жыць, ён змагаецца за слова. І робіць гэта адкрыта, смела і ўпэўнена. Чытаючы кнігу "Праблемы нормы, культуры мовы ", жахаешся: колькі, аказваецца, у нашай мове скалечаных русіфікацыяй слоў. Вычоны ў кнізе паказвае іх нікчэмнасць, небеларускасць, вяртае іх натуральнае гучанне, паказвае іх нацыянальную вопратку — словаструктуру. Адчуваецца боль даследчыка, гарачы клопат рупліўца — даць людзям зразумець: "трасянка" таму і не прыжываецца, што яна штучная. Натуральнае ж слова, сваё, роднае, пайшло б іншым шляхам — туды, адкуль з'явілася, — у народ. Упэўнены, што кніга Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" — новае слова ў беларусістыцы. Хацелася б, каб гэтае слова "завалодала масамі" і натхніла ўсіх даследчыкаў на пошук сваёй дарогі роднаму слову, на ачышчэнне мовы ад чужых формаў і канструкцыяў. Жадаю кнізе слаўнай будучыні, чытачам — захапленне і ўразуменне, аўтару — далейшых творчых удачаў!

Затым выступілі доктар філалагічных навук, прафесар Святлана Мусіенка, загадчыца кафедры польскай філалогіі, аўтарка кніжак і артыкулаў на беларускай , польскай і ўкраінскай мовах. Яна дала высокую ацэнку кнігі Паўла Сцяцко і яго навуковай і навучальнай працы, адзначыўшы, што прафесар П.У.Сцяцко падрыхтаваў цэлую школу навукоўцаў, сярод якіх шэсць кандыдатаў навук і адзін доктар навук.

З шчырым і надта важкім словам выступіў на прэзентацыі кандыдат філалагічных навук, дацэнт, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Ігар Жук, дэкан (1991 — 1995) першага на Беларусі факультэта беларускай філалогіі і культуры. Ён нагадаў той час, калі прафесар Павел Сцяцко ўзначальваў кафедру беларускай культуры і калі намаганні яго і іншых рупліўцаў беларускай культуры пачала актыўна распрацоўвацца навукова-даследчая тэма "Культура Гродзеншчыны". На падставе вынікаў гэтае працы ў 1993 годзе ў Гродзенскім універсітэце выйшаў навуковы альманах "Гарадзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры", а ў 1997 годзе — трэці выпуск гэтага выдання. Галоўны рэдактар "Гарадзенскіх запісаў" — прафесар Павел Сцяцко. Менавіта дзякуючы яго намаганням, яго працы над рукапісамі гэтае выданне і стала магчымым. Выступоўца падкрэсліў, што кнігу П.Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" будуць вывучаць і студэнты, і навукоўцы не аднаго пакалення як класіку, бо кніга заслугоўвае гэтага, у чым ён пераканаўся, чытаючы і перачытваючы яе.

Высокую ацэнку атрымала кніга і ў выступе загадчыка кафедры беларускай культуры, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, прафесара Аляксея Пяткевіча. Як аўтар шэрагу кнігаў, сярод якіх і нядаўна выдадзеная "Літаратурная Гродзеншчына", ён добра разумее кошт такіх працаў для выхавання рупліўцаў беларускай культуры і яе найгалоўнейшага інструмента — нацыянальнай мовы. У аснове кнігі шматлікія артыкулы прафесара Паўла Сцяцко па адраджэнні і нармаванні нашай мовы, якія атрымалі шырокі рэзананс у чытачоў, студэнтаў і выклад-чыкаў нашага універсітэта і іншых ВНУ Беларусі, усіх, хто дбае пра нашае адраджэнне.

Цёплыя словы пра надзвычай плённую навуковую дзейнасць Паўла Сцяцко і высокую вартасць кнігі "Праблемы нормы, культуры мовы" сказаў кандыдат філалагічных навук, дацэнт Мікола Даніловіч, аўтар шэрагу манаграфіяў і навучальных дапаможнікаў для студэнтаў і вучняў сярэдняй школы. Як рэцэнзент кнігі, ён падрабязна спыніўся на вартасцях гэтае ўнікальнае кнігі і яе ролі ва ўнармаванні сучаснага (савецкага) варыянту літаратурнай мовы.

Наступнае слова бярэ вядомы краязнаўца, аўтар кнігі пра заснавальніка беларускага мовазнаўства акадэміка Я. Карскага, яго зямляк — Апанас Цыхун. Выступоўца казаў і пра тое, як прафесар Павел Сцяцко (навуковы рэдактар кнігі А.Цыхуна "Скарбы народнай мовы") сваімі намаганнямі дапа-мог у выданні гэтае кнігі, "без Паўла Уладзіміравіча кніга "Скарбы народнай мовы" не ўбачыла б свету".

Пра вартасці кнігі казалі на прэзінтацыі і іншыя прамоўцы. Сярод іх вядомы на Беларусі малады навуковец, пісьменнік, культуролаг Юрась Пацюпа, аўтар шэрагу арыгінальных артыкулаў па адраджэнні нашай мовы, яе нармаванні. Затым выступіў загадчык аддзела Гарадзенскага абкама прафсаюзаў Іван Сухоцкі, былы вучань Паўла Уладзіміравіча, настаўнік, грамадскі дзеяч, журналіст. Ён вельмі цёпла выказаўся як пра кнігу, так і самога яе аўтара прафесара Паўла Сцяцко, які навучыў яго і шматлікіх сваіх выпускнікоў паважаць роднае слова, змагацца за яго чысціню і дакладнасць, за яго жыццядзейнасць.

Супрацоўніца бібліятэкі Гродзенскага універсітэта Надзея Емяльянчык распавяла, якой вялікай папулярнасцю карыстаюцца ў студэнтаў кнігі Паўла Уладзіміравіча: "Пачатковы курс мовазнаўства", "Народная лексіка", "Народная лексіка і словаўтварэнне", "Беларусканароднае словаўтварэнне", яго шматлікія слоўнікі і артыкулы ў часопісах. Студэнты з зацікаўленнем вывучаюць іх пры напісанні курсавых і дыпломных працаў. А цяпер і новую кнігу — "Праблемы нормы, культуры мовы". У выніку актыўнага карыстання гэтыя кнігі давялося аднаўляць, пераплятаць. Затым яна расказала пра кнігі, паказаныя на разгорнутай у аўдыторыі выставе.

Пасля слова ўзяла Святлана Ёська, дырэктар гуманітарнага ліцэя г.Гродна. Яна распавяла пра каштоўнасць кнігі Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" не "прозаю", а вершаванымі радкамі.

На прэзентацыі гучалі ў выкананні студэнтаў вершы бе-ларускіх пісьменнікаў пра родную мову, яе ролю ў нацыянальным адраджэнні, у выхаванні руплі-цаў роднай культуры.

У канцы свята навукі выступіў Павел Сцяцко, які падзякаваў усім, хто прыйшоў на прэзентацыю яго кнігі, і падзяліўся сваімі меркаваннямі пра нашую мову, мову перыядычных выданняў, радыё і тэлебачання. Адказаў на пытанні прысутных. Прыгадаў свае сустрэчы з слаўтымі пісьменнікамі Беларусі, найперш з Васілём Быкавым, які падчас вучобы П.Сцяцко працаваў у рэдакцыі газеты "Гродзенская праўда". І пра тое, як кандадацкія экзамены па беларускай мове ў яго прымала камісія на чале з акадэмікам Кандратам Крапівой, потым К.Крапіва выступаў афіцыйным апанентам па яго дысертацыі. Пра сустрэчы з многімі пісьменнікамі ў Мінску, дзе П.Сцяцко працаваў у Педагагічным інстытуце. Усё гэта і паспрыяла таму, што ён стаў апантаным прыхільнікам беларушчыны, аддае ёй усё сваё жыццё.

Былі таксама віншаванні калегаў па працы, кветкі, зычанні

***Ніна Памецька,***
***кандыдат філалагічных навук, дацэнт***
***Вячаслаў Ламака,***
***загадчык навукова-даследчай лабараторыі***

Рэспубліканская рада ТБМ адбудзецца 6 чэрвеня 1998 года ў 12.00 гадзін у памяшканні Гуманітарнага ліцэя па вуіцы Кірава-21 у горадзе Менску

## *Падпіска*

Шаноўныя сябры "Нашага слова". Удругім паўгоддзі нашая газета заняла сваё законнае мейсца ў раздзеле "Рэспубліканскія газеты" на старонцы 15 Каталага. Кошт падпіскі не змяніўся, 12 000 рублёў на месяц. Бутэлька піва каштуе даражэй.

### Анкета чытача "Нашага слова".

1. Калі Вы упершыню прачыталі "НС" ?
2. Як да Вас трапляе газета? (Па падпісцы, купляю у кіёску, **даюць прачытаць знаёмыя, іншае ______________).**
3. Чым адрозніваецца сённяшняе "НС" ад старога выдання? **Назавіце лепшыя і горшыя рысы абодвух выданняў.**
4. Якія аўтары "НС" Вам больш падабаюцца і чаму ? **(назавіце 2 - 3 прозвішчы).**
5. Якія рубрыкі ў газеце Вам болей да спадобы ?
6. Якія новыя рубрыкі Вы хацелі б убачыць на старонках **"Нашага слова" у другім паўгоддзі ?**
7. Як Вы можаце дапамагчы ў выхадзе і распаўсюджванні "НС"? **( падпісацца на газету асабіста, падпісаць газету сябрам, сваякам ці знаёмым, купіць некалькі асобнікаў у кіёску і распаўсюдзіць на працы альбо на месцы жыхарства, знайсці прадпрымальніка - спонсара, які можа ахвяраваць нейкую суму грошай на выданне газеты, іншае __________).**
8. Якія іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы Вы:
   а) выпісваеце ..............................................
   б) купляеце ..............................................
   в) чытаеце ў бібліятэцы ..............................................
9. Назавіце тры Вашых любімыя беларускія кнігі.
..............................................
10. Ваш узрост ,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,, Адукацыя ,,,,,,,,,,,,,,,,, **Месца жыхарства** ,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,,

Дзякуй за адказы . **Рэдакцыя.**
Запоўненую анкету мы просім дасылаць на адрас рэдакцыі: Ліда-2, п.с. 7

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

**Куды** ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)
**Каму** ______ (прозвішча, ініцыялы)

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| **Кошт** | падпіскі | **36000** руб. | Колькасць камплектаў | **1** |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)
Каму ______ (прозвішча,ініцыялы)

Ніл ГІЛЕВІЧ

# І з нейкай садысцкай азвярэласцю

*Як вядома, напрыканцы красавіка адбыўся чарговы з'езд пісьменнікаў Беларусі. На жаль, друк, радыё і тэлебачанне недастаткова ўдзялілі ўвагі гэтай важнай падзеі ў культурным жыцці краіны. Паколькі на форуме майстроў слова прагучалі сур'ёзныя выступленні, якія датычылі не толькі праблем літаратуры, але закранулі балючыя грамадска-палітычныя пытанні часу, то "Народная воля" вырашыла азнаёміць сваіх чытачоў з некаторымі старонкамі стэнаграмы з'езда. Сёння змяшчаем прамову народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. У бліжэйшых нумарах пастараемся даць слова і іншым дэлегатам з'езда.*

***"Наша слова" лічыць патрэбным перадрукаваць гэты выступ нічога не мяняючы.***



**Шаноўная грамада!**

У траўні 1966 года мне ўпершыню далі слова на з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Старэйшыя з прысутных напэўна помняць: слова маё было крыкам душы ў абарону нашай роднай мовы, якую небывалым тэмпам выганялі тады са школ і наогул з грамадскага ўжытку ў Беларусі. З той пары праўшло ўжо 32 гады. Тады быў з'езд пяты, цяпер — аж дванаццаты. І што ж? І зноў я мушу гаварыць аб тым жа, што і 32 гады назад, — аб лёсе нашай роднай мовы, якую яшчэ большымі тэмпамі і з нейкай садысцкай азвярэласцю выганяюць з Беларусі. Мушу аб гэтым гаварыць, бо тое, што чыніцца ў Беларусі з мовай 10-мільённага славянскага народа, ёсць вялікае злачынства перад культурай усяго чалавецтва і ёсць здзек над усімі разумнымі асновамі міжнацыянальных узаемаадносін.

Я мушу аб гэтым гаварыць, таму што, на маё глыбокае перакананне, іменна мова вызначае шлях натуральнага духоўнага развіцця Нацыі. Гэта яна за доўгія стагоддзі, а можа, і за тысячагоддзі насельнікаў зямлі, што распрасцёрлася ад Буга да Сожа і ад Заходняй Дзвіны да Прыпяці зрабіла беларускім народам. Гэта яна вывела нас у свет і абазначыла ў гэтым свеце наша законнае, богам дадзенае месца. Гэта яна, стаўшы адзінай унармаванай мовай пісьменства, абавязала і абавязвае мільёны грамадзян Беларусі пачувацца суграмадзянамі, суайчыннікамі, супольнікамі аднаго гістарычнага лёсу. Гэта яна патрабуе ад усіх нас думаць і помніць, помніць і думаць. Думаць аб тым, што без яе мы — ніхто і нішто. Помніць аб тым, што культурны ўзровень нацыі вымяраецца перш за ўсё па ёй, па ступені вернасці ёй, па ўзроўні валодання і маштабах карыстання ёю. Па тым, наколькі яна сапраўды ёсць наша святыня. На "трасянцы", на мове Камароўскага рынку інтэлектуальная асоба вырасці не можа. Не можа вырасці ні мысляр-палітык, ні мысляр-дзяржаўнік, ні мысляр-творца. З трыбуны з'езда хацелася б, вядома, гаварыць аб нашай сучаснай літаратуры, аб новых набытках таварышаў і сяброў па працы. На вялікі жаль, дазволіць сабе гэтую "раскошу" я не магу: не выпадае. Што з таго, што паэты і пісьменнікі напісалі і апублікавалі ў апошні час добрыя і нават выдатныя творы? А ці ідуць гэтыя творы ў народ, ці маюць яны чытача? Каб таленавітыя беларускія кнігі жылі нар-мальным жыццём — у дзяржаве павінна ажыццяўляцца таленавітая, гэта значыць разумная і мудрая нацыянальная палітыка. Каб гэтыя таленавітыя кнігі чыталі — у грамадстве павінна быць адпаведная духоўная атмасфера і павінны быць чытачы, у якіх пры гуках Роднага Слова радасна б'ецца сэрца. На жаль, колькасць такіх чытачоў адчувальна змяншаецца і будзе змяншацца далей, калі палітычна-грамадская сітуацыя і духоўная атмасфера на Беларусі не пераменіцца. У такім выпадку беларускую літаратуру чакае незайздросная прышласць: будзе набіраць сілу працэс, які не дасць ёй магчымасці развінаць крылы, — працэс удушэння беларускага слова. Ён пачаўся з таго, што быў перакрэслены Закон аб мовах, паводле якога беларускай мове быў нададзены ў краіне статус адзінай дзяржаўнай. Гэты Закон быў адзінай рэальнай гарантыяй выратавання нашай мовы. Усё астатняе — гэта, выбачайце, размовы на карысць бедных, гэта прымочкі там, дзе можа дапамагчы аперацыя. Звышнаіўнасць, мякка кажучы, думаць, што ў нашым становішчы дзве дзяржаўныя мовы — гэта справядлівасць. Якая гэта справядлівасць — мы ведаем: не толькі ніводнай беларускай школы, але і ніводнага беларускага першакласніка ў родным горадзе Караткевіча! Вось вам і ўся справядлівасць! Вось рэальны стан рэчаў, а не дэмагогія ўзурпатараў.

Склалася сітуацыя, без разумення якой можа аказацца марным само існаванне Саюза пісьменнікаў. Калі Саюз як творча-прафесійная арганізацыя не вызначыць сваю пазіцыю ў сёняшнім грамадска-палітычным раздраі на Беларусі і не скажа аб гэтай сваёй пазіцыі народу — дык якая тады будзе яму як грамадскай сіле цана? На працягу двух стагоддзяў — ад самага пачатку ўзнікнення новай беларускай літаратуры — яе творцы, паэты і пісьменнікі, лічылі сваім найпершым і найсвяцейшым абавязкам змаганне за лепшую долю Бацькаўшчыны, за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне беларускага народа. Падкрэсліваю — і за нацыянальнае. Гэта значыць, за сваю суверэнную , незалежную дзяржаву. Хіба не так? Хіба не гэта ідэя вызначыла магістральную лінію яе развіцця, была цэнтральным нервам яе жывога арганізму? Дык што — адвернемся цяпер ад гэтай галоўнай нашай традыцыі? Здрадзім усім тым, хто — ад пачынальнікаў і да нашых дзён — мелі сцяг, за сэнс жыцця і творчасці ідэю нацыянальнага адраджэння? Здрадзім Багушэвічу, Цётцы, Купалу, Коласу, Багдановічу, Гаруну, Чорнаму, Панчанку, Мележу, Геніюш, Караткевічу? Здрадзім Гарэцкаму, Ластоўскаму, Галубку, Жылку, Зарэцкаму, Калюгу, Мрыю і ўсім іншым многім-многім нашым папярэднікам, якія за вернасць гэтай ідэі прынялі пакутніцкую смерць, пра якіх мы нават не ведаем, дзе ляжаць іх косці?

Сёння глабальны наступ усіх антыбеларускіх сіл на Беларусь як суверэнную дзяржаву, на беларускі народ як самастойны славянскі этнас, на беларускую мову як адну з самых прыгожых, развітых і перспектыўных славянскіх моў — ідзе пад лозунгамі гэтак званага "славянскага братства" і саюза Беларусі з Расіяй, канчатковай мэтай якога ёсць утварэнне адзінай рускай дзяржавы. Іншымі словамі — ліквідацыя незалежнай Беларусі і поўнае вынішчэнне мовы беларускага народа. З пэўнага часу ва ўсіх імпер-шавіністычных "набатах" пра гэта гаворыцца адкрыта, без ніякай палітычнай мімікрыі, маю, здаецца, немалыя падставы для таго, каб не баяцца ярлыка славянафоба і русафоба, бо гэта было б вельмі вясёлае глупства з боку новаяўленных вялікіх патрыётаў славянства. Дазвольце нагадаць, што амаль усё сваё свядомае жыццё — больш за сорак пяць гадоў — я працаваў на ўмацаванне дружбы брацкіх славянскіх народаў, падкрэсліваю — славянскіх. Дзеля гэтага пераклаў на беларускую мову творы каля чатырохсот славянскіх паэтаў і пісьменнікаў, напісаў пра іх сотні артыкулаў, прысвяціў нашай дружбе дзесяткі вершаў. Вельмі даражу гэтай дружбай, люблю і паважаю братоў-славян, асабліва за тое, што яны (у гэтым я глыбока перакананы) сваю свабоду і незалежнасць ніколі нікому не ўступяць.

Афіцыйныя СМІ ў Беларусі надрываюцца ад крыку пра саюз славянскіх народаў. Агітуюць, заклікаюць, пераконваюць, што толькі ён уратуе славян ад пагібелі. Марныя намаганні. Ніякі вялікі саюз славянскіх народаў не ўтворыцца. Яго не будзе датуль, пакуль праімперскія шавіністычныя сілы будуць асіміляваць беларусаў і вынішчаць беларускую мову. Сапраўднае братства славян пачнецца тады, калі на беларускім небасхіле знікне цень двухгаловага арла, а ў самой Беларусі скрозь і ўсюды запануе беларуская мова — як, скажам, балгарская ў Балгарыі або сербская ў Сербіі. Без гэтага ўсе размовы пра наша братэрства — цынічнае крывадушша, не больш. Славянскі свет гэта бачыць і разумее. І, канешне ж, не верыць у шчырасць "заклікаў". Як могуць паверыць ім украінцы, балгары, сербы, македонцы і іншыя браты-славяне, калі ў іх на вачах ажыццяўляецца гвалтоўная асіміляцыя беларускага народа, вытраўляецца яго духоўная самабытнасць, збіваецца яго старажытная мова?

У краіне відочна пагаршаецца крымінагенная сітуацыя, расце колькасць забойстваў, рабункаў, гвалтаў, беспакарана дзейнічаюць мафіёзныя і карумпіраваныя структуры. Важкай перашкодай на гэтым ганебным шляху крыміналізацыі грамадства магла б быць ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння — ідэя, якая змагла б мабілізаваць у народзе ўнутраныя рэсурсы духоўнасці, якая паклікала б да процістаяння маральнаму распаду культуру, літаратуру, мастацтва, падняла б і актывізавала б ролю гэтых фактараў грамадскага прагрэсу. Але каму пра гэта гаварыць, каму гэта тлумачыць? Тым, што публічна абражаюць творцаў нацыянальнай культуры? Тым, што за беларускую мову на вуліцы б'юць людзей палкамі і цкуюць сабакамі? Тым, што нават уласную хату адабралі ў пісьменнікаў?

Генералы з Масквы вяшчаюць: Беларусь сёння "стала душой воссоединения, возрождения и освобождения нашего славянского мира". Вядомы расійскі пісьменнік піша: "Сейчас пора и время Белой Руси. Выстоит она — спасется славянство". Брава, калега! Такога яшчэ ніхто раней не гаварыў. Аказваецца, ад лёсу Беларусі залежыць лёс не толькі 150 -мільённай Расіі, але і ўсяго славянства! Выстаіць Беларусь — не загіне славянства. Як гэта кажуць, дзякуем за гонар. Але дазвольце спытаць: а што застанецца ў выніку ад самой Беларусі? Адкажыце: а як выстаяць самой Беларусі перад небывалым націскам усеахопнай, франтальнай русіфікацыі? Беларусь, кажаце, выратуе славян. А якою цаной? Цаной уласнай пагібелі? Будзе жыць і квітнець саюз славянскіх народаў, але без таго, хто іх уратаваў? Ну і ну!.. Калі ж вы гэтага не жадаеце — то што вы зрабілі і робіце, каб не даць беларускай нацыі загінуць? А нічога. Ані дзэнг! Ніводзін рускі пісьменнік, ніводзін навуковец, ніводзін артыст, мастак, кампазітар з ліку палымяных патрыётаў славянства не выбухнуў высакародным гневам, не закрычаў "не магу маўчаць!", бачачы , што робіцца ў Беларусі з беларускай мовай, з беларускай школай, з беларускай кнігай, з беларускім друкам! Ніводзін — ні разу! І таму я хачу некалькі слоў сказаць на "великом и могучем", які мы шануем і ведаем не на ўзроўні камароўскай "трасянкі". Господа! Ведь это ж чудовищно! Ведь это ж значит, что вы поддерживаете этногеноцид по отношению к белорусскому народу. Видеть, какая идет расправа над белорусским языком — и не только безучастно молчать, но ешче и подстрекать к этому! Стыдно, господа! Позорно! Как можно принадлежать к издревле благородному сословию интелегенции (а не мелких лавочников) и не понимать, что сознательно и воинственно способствовать умерщвлению языка народа, а значит, и самого народа, могут только, прошу прощения, отъявленные ... неинтеллигенты.

Беларускія урадоўцы, афіцыйныя ідэолагі і журналісты зусім у духу 30-х гадоў абрынваюць цэлыя каскады абвінавачванняў і праклёнаў на ўсё яшчэ недабітых, недавыкарчаваных, неверагодна жывучых "беларускіх нацыяналістаў". Нашто вам увесь гэты клопат, панове? Зрабіце адну нескладаную рэч — і не стане ніякіх "нацыяналістаў". Зрабіце тое, што ёсць ва ўсіх славянскіх народаў, з якімі вы так горача жадаеце аб'яднацца ў саюз. А іменна: зрабіце, каб у Беларусі паўсюдна запанавала беларуская мова — толькі і ўсяго. Каб на беларускую мову перайшло — на ўсіх узроўнях — справаводства, адукацыя (у тым ліку і абавязкова — вышэйшая школа), навука, армія і г.д. — як гэта было ў нас у першае дзесяцігоддзе пасля Кастрычніка. Зрабіце — і вы ўбачыце, як падымецца ў нашым народзе дух славянскага братства. Але справа ў тым, што вы гэтага не зробіце, бо вам не дазволяць гэта зрабіць, бо гэта будзе рашуча пярэчыць геапалітычнай стратэгіі Крамля, бо вас тут жа змятуць і выкінуць на сметнік тыя, хто вас прывёў да ўлады. І вы гэта выдатна разумееце.

Шаноўныя дэлегаты!

На працягу цэлых стагоддзяў нас, беларусаў, раз'ядноўвалі тэрытарыяльна, палітычна, канфесійна, сацыяльна — і ўсё з такім цынізмам, каб выглядала, што мы самі гэтага хочам, што мы сваімі рукамі садзейнічаем гэтаму раз'яднанню. Сёння гэта нялюдская палітыка "раздзеляй и властвуй" працягваецца ў асабліва цынічных, брутальных формах. Грамадства расколваецца далей і далей. Вядома ж, гэта не магло не закрануць і мастацкую інтэлігенцыю, не магло не адбіцца на жыццядзейнасці творчых суполак. На літаратурнай ніве Беларусі сёння працуюць людзі і розных узроўняў таленту, і розных эстэтычна-творчых арыетацый, і розных ідэйных перакананняў, і розных чыста чалавечаскіх якасцяў, адкуль вынікаюць і розныя ўзаемаадносіны: сімпатыі і антыпатыі, сяброўства і непрыязнасць. Пройдуць дзесяцігоддзі — і час паглядзіць на многія з гэтых разыходжанняў і варагаванняў з паблажліва-горкай усмешкай. Але ён, той час, будзе належыць не нам, а нашым нашчадкам, ніколі не даруе тым, хто ў лёсавызначальныя для Беларусі дні ішоў не тым шляхам, якім павінен быў ісці, хто жыў і паводзіўся так, як быццам на свеце не жылі ні Багушэвіч, ні Купала, ні Багдановіч ... Кожнаму дадзена воля зрабіць свой выбар. Але Маці-Радзіма заўсёды спадзяецца, што яе дзеці зробяць выбар у яе карысць, — такі выбар, каб яе душы і сэрцу не было балюча.



# Сіндром непераможнага ворага

*І пакланіліся змею, што даў уладу зверу, і пакланіліся зверу, гаворачы: "Хто падобны да гэтага звера? Хто здольны дужацца з ім?*
*Адкрыццё, 13 : 4*

1. Блукаючы па небагатых аазісах беларускай публіцыстыкі час ад часу можна назіраць, як сярод запыленых цмяных фарбаў раптам без дай - прычыны шыбуюць уверх расліны нечуваныя, кідкія, запавядаючы нібыта радыкальныя змены. Але яскравыя кветкі хутка засыхаюць, прыгожае лісце ападае і маем чарговы, знаёмы да болю, скручаны барацьбой з асяроддзем беларускі саксаул. Арыгінальнасць і нават экстрэмізм, што так уражвалі ў першае імгненне, выглядаюць пазней нейкім дзіцячым выбрыкам.

Праявы такіх настрояў лягчэй за ўсё вызначыць у публіцыстыцы: па эфектыўных заявах, смелых да абсурду фармулёўках ды "небяспечных" закліках. Уважлівы чытач адразу ж адчувае, што калі б нехта, крый Божа, пачаў дзейнічаць паводле выказаных адважным аўтарам прынцыпаў, дык натхняльнік апынуўся б сярод напужаных і разгубленых. Як, для прыкладу, пачуваліся б сур'ёзныя дзядзькі і цёткі, што спрабуюць часам даводзіць ніжэйшасць расейскае мовы за беларускую, калі б іхнія дзеці прынеслі са школы заданне напісаць на гэткую тэму сачыненне? Ніхто не ўлічыў такое магчымасці, бо яе няма. Фантастычная гіпотэза, аднак, выяўляе сутнасць нашых экстрэмістаў: яны дзеюць, перакананыя ў немагчымасці сваёй перамогі.

Гэтая псіхалогія ўласцівая беларусам ад пачатку нацыянальнага адраджэння. Адчуванне гістарычнага шансу, пахаванага ці то Ягайлам і Вітаўтам, ці то Люблінскаю ды Берасцейскаю вуніямі, ці то катастрофаю Рэчы Паспалітай Абедзьвюх Нацый ляжыць у аснове нашае свядомасці, надзейна замацаванае падзеямі XX стагоддзя, і ў значнай ступені фармавала канструктыўную дзейнасць адраджэнцаў. Згадаем хаця б Купалу:

***Для Бацькаўшчыны бедный,***

***Для ўпаўшых яе сіл***
***Складаў я гімн пабедны***
***Сярод крыжоў, магіл.***

Не кожны, аднак, здолее ў змрочнай атмасферы захоўваць дакладны і светлы вобраз, а з ім — вернасць абранай мэце. Дзейнасць жа ў рэчышчы вядомага тосту "за поспех нашае безнадзейнае справы" мае той недахоп, што ад пачатку закладаецца нярoўнасць супраціўнікаў і абіраецца адпаведная тактыка. Стратэгія ж увогуле цалкам аддаецца варожаму боку.

2. Сіндром непераможнага ворага (далей СНВ) мае шмат характэрных рысаў, найбольш выразныя з іх вядомая кожнаму з савецкага мінулага. Тады, каб паслабіць ціск на свядомасць афіцыйнай дагматыкі, людзі тлумна кпілі з яе. Гэта было сапраўды адзінае выйсце, яно парадзіла плойму анекдотаў і карміла легіён сатырыкаў. Сёння тая звычка кажа нам смяяцца з непісьменных панславянскіх фантазій, з закідаў пра арыйскае паходжанне, з цытавання "сіёнскіх мудрацоў". Нельга ! Пакуль гэтыя трызненні не вучаць у школе і не вымаўляюць з высокіх трыбунаў адказныя вусны, яшчэ не позна называць іх уласнымі іхнімі — дужа непрыгожымі — імёнамі. Смех — зброя апошняга шансу, ён дзейсны, калі небяспека відавочная, але ў іншым выпадку ён лёгка прыпадабняецца да безадказнасці.

Тая безадказнасць у ідэалагічных пытаннях, што добра знаёмая былым савецкім жыхарам ( адказвала за гэта партыя) сёння — пасля ідэалагічнага разняволення — абуджае спакусу пагуляць з запэцканымі ў крыві ідэалагемамі. Адкуль бяруцца вобразы свастыкі, заклікі змагацца з "дэарыізацыяй" (Крыніца 37)? Ад цемнаты і разгубленнасці, бо хапаюць, што бліжэй ляжыць (варта, дарэчы, увагі, што менавіта такое ляжыць бліжэй). Тая ж Германія, адкінуўшы Гітлера, унь як жыве. А тут — " дэарыізацыя". У якасці ж "добрых" прыкладаў нашы змагары прапануюць краіны неяк слаба "заарыеныя": Ізраіль, Японію,Фінляндыю... Гора адно!

Корань ліха, я лічу, у таемнай непавазе да сябе і захапленні сілаю ворага, прыгажосцю і магутнасцю злога. За гэтым лёгка ідуць ад мовы ад сапраўднае барацьбы да стварэння фантастычных праектаў, спадзявання на цуд або апакаліптычнае візіянерства, "чорны аптымізм". "Безумоўна, Беларусь ва ўсякім разе не зналюдзее дарэшты", — піша Стах Дзедзіч у прэтэнцыёзным эсэ "Эпілог", запавядаючы хуткі біялагічны канец беларускага этнасу і запаўненне тэрыторыі мігрантамі. Во суцешыў! А хіба можна было б так пісаць, калі б былі сумненні ў непераможнасці ворага? Не.

Ёсць і больш небяспечныя пытанні. Ці існуе, напрыклад, для аўтара цытаваных радкоў палітычная магчымасць пагадзіцца калі - небудзь з тым, што вораг не ёсць непераможны. Ці не лагічна для яго пагадзіцца на саюз з "меншым" злом дзеля аховы ад "большага"? Гісторыя даводзіць, што ідэалагічная логіка можа часам перамагчы нават жыццёвыя рэаліі, і чалавек памрэ ад смагі пасярод возера з "няправільнаю" вадой, таму небяспека рэальная.

СНВ штурхае чалавека на шлях, запраграмаваны для яго супраціўнікам, накідвае няшкодныя для ворага спосабы барацьбы ў той час, калі самастойна абраны паводле сваіх магчымасцяў адказ мог бы даць доўгачаканы плён.

За захапленнем ворагам ідзе сакралізацыя працэсу бясконцага змагання. Вайна — гэта рамантычна (асабліва калі гэта вайна папяровая і бяскроўная). Але нягледзячы на бутафорскі характар дзеяння не ўдаецца забыць цалкам аўтэнтычныя звычкі вайны, а дзеля таго, што вораг непераломны, то перадусім вайны партызанскае. Зачыненасць, недавер, перасцярога патрэбныя ў падполлі, але якая іх каштоўнасць у культуры ?

Менавіта СНВ на маю думку, адказны за большую частку кансерватызму беларускай пісьменнасці. "Новае можа быць небяспечнае", — чуем мы шэпт калектыўнага несвядомага, — "са старым жа маеш гарантыю, што хоць ворагу не надта нашкодзіш, але з табою нічога благога не здарыцца, сам Танк так рабіў".

Партызанскага паходжання таксама імкненне да прастаты ў сродках і ідэях, абмежаванне ў часе і прасторы. Перавага аддаецца невялікім эфектоўным акцыям з разлікам пераважна на псіхалагічны эфект. Гэта пакінутая метода. Ідэйныя спрашчэнні — просты шлях да ўтопіі, а далей — да таталітарызму. Беларускі светапогляд і так без меры абцяжараны такою спадчынай. Яшчэ Абдзіраловіч заклікаў: " не створым жа свайго, беларускага месіянізму", прадчуваючы за спакуслівай лёгкасцю незвычайную шкоднасць прымітыўных "відавочных" падыходаў.

3. "Калі партызаны не прайгралі, значыць яны выйграюць", — казаў Чэ Гевара. Беларускія творцы, на маю думку, празмерна захапляюцца гэтым тэзісам. Беларускі светапогляд мусіць пашырацца за кошт нетаталітарных канцэпцый. Яны, між іншым, утрымліваюць плюралізм, павагу да ідывідуальнага, прызнание выпікаў рынкавай канкурэнцыі, імкненне да ўліку нават супрацьлеглых інтарэсаў. Мала гэтага ў нас. А яшчэ менш — пачуцця значнасці і вагі словаў, ды павагі да тых, хто гэтыя словы слухае. Шмат хто з творцаў і сёння ў марах бачыць шэрагі беларусаў, што глядзяць з захапленнем яму ў рот. Варта нарэшце зразумець, што сёння мала хто гатовы пакланяцца ім, як багам, і што паміж пакланеннем і грэбаваннем багата ёсць розных адценняў, якімі можна ўзбагаціць сваю светапоглядную палітру.

Легкадумнае стаўленне да спажыўца добра ідзе ў пары з невысокай якасцю. Для прыкладу, восенню ў Гародні праводзіў свае заняткі "Народны універсітэт". Мусіла быць змястоўная праграма лекцый па гісторыі і культуры Беларусі, але ўвасобілася яна ў жыццё ў хаатычным і непрыстойна няпоўным выглядзе. Цікава тут тое, што праводзіла універсітэт арганізацыя з назваю "Беларуская перспектыва". Мне здаецца, што ў гэтым выпадку перспектыва атрымалася адваротнаю, нагадаўшы стаўленне савецкіх прадаўцоў да людзей, што прыйшлі ў краму па дэфіцыт.

Бо якасная беларушчына сёння, як заўсёды, ў дэфіцыце. Не так даўно ў "Вострай браме" С. Дубавец зноў паўтарыў, што "адраджэнне нельга рабіць у падполлі".. Сёняшні стан такі, што ў найглыбейшым падполлі працы ёсць на гады, а маючы усё ж некалькі газетаў — невядома нават, з чаго пачынаць. Патрабуецца аднак пашырэнне кругагляду. Справа гэта піянерская і вельмі няпростая. Прыдалося б тут, мусіць, знаёмства з досведам суседзяў: палякаў, чэхаў, летувістаў, але веды гэтыя ў нас не пашыраныя. Нешта, аднак, можна вызначыць, даверыўшыся пачуццю здаровага сэнсу, вызваліўшыся ад вобразу непераможнага ворага. Сапраўдная Беларусь не можа быць полем дзеяння дзвюх - трох суполак, што зважаюць толькі на сябе. Ва ўтульнай для беларусаў Беларусі слова "арыйскі" можа ўжывацца толькі ў дачыненні да глыбокай старажытнасці, а родная мова — шанавацца без ганьбавання суседзкай.

Дзеля такой Беларусі можна весці адраджэнцкую працу і сёння, бо ёсць спажыўцы беларушчыны. Канешне, яны не могуць забяспечыць амбітным дзячам высокія пасады і выдатны дабрабыт. Адраджэнне пасадаў сёння немагчымае. Сёняшняе адраджэнне можа, па майму перакананню, быць толькі адраджэннем рэпутацыі: рэпутацыі беларускае мовы, неартадаксальнае думкі, спрадвечных каштоўнасцяў і ці мала чаго яшчэ. Пасля гэтага можна будзе спадзявацца на нешта большае.

***А.Жукоўскі, Гародня.***

# Хто аддаў загад на русіфікацыю менскіх вуліц?

**Дзень добры, " Наша слова"!**

Я сам жыхар Менска, але так здарылася, што даволі даўно не даводзілася мне бываць у адным з раёнаў горада, а дакладней — на Партызанскім праспекце ад плошчы Ванеева і далей, у бок Магілёўскай шашы.

Там на будынках замененыя старыя шыльдачкі з назвай праспекта і нумарам дома на новыя. Безумоўна новыя маюць прывабны, нават святочны выгляд, калі не зважаць на такую дробніцу, як мова напісання, бо выкананы надпісы па-расейску! Калі я гэта ўбачыў, то колькі хвілін стаяў з перахопленым дыханнем. Дакладна не магу нават патлумачыць, што адчуваў я у гэтыя хвіліны. І роспач, і адчай, і сорам. Тое, што я ўбачыў, падалося мне настолькі неверагодным, што я палічыў гэта за нейкую памылку і прайшоў да суседняга будынка, але і там вісеў той жа самы "інтэрнацыянальны" варыянт. Па чыйму загаду гэта зроблена, каму замінала ? Ужо шмат дзесяцігоддзяў назвы вуліц і праспектаў у Менску выконваліся па-беларуску. Апроч іншага, гэта надавала своеасаблівасць нашаму гораду, адметнасць як сталіцы дзяржавы, і было добрым прыкладам для многіх іншых нашых гарадоў і мястэчак. Які "начальнік" дадумеўся да гэтага ? Што гэта — прыкрая памылка, альбо мэтанакіраваная кампанія па вынішчэнню апошніх прыкмет беларускасці ў нашай сталіцы ? На мой погляд, гэта яшчэ адна ганебная праява варожага і чужацкага стаўлення сёняшніх уладаў да беларускасці, яшчэ адна праява невуцтва і цемрашальства.

Можа б вы знайшлі магчымасць даведацца, хто асабіста ухваліў і даў загад на выкананне гэтай бязглуздай ідэі. Няблага было б і надрукаваць вынікі гэтага дазнання на вашых старонках. Я спрабаваў дазнацца аб гэтым асабіста, але не вельмі у мяне атрымалася.

***З павагай, Раман Станкевіч, г Менск.***

# Для жыхароў Ліды і не толькі



У г. Ліда пачынаецца будаўніцтва помніка воінам — лідзянам, якія загінулі пад час вайны ў Афганістане.

Рада Асацыяцыі воінаў-інтэрнацыяналістаў у г. Лідзе звяртаецца да калектываў прадпрыемстваў, установаў, арганізацый, камерцыйных структураў да ўсіх жыхароў горада і раёна аказаць пасільную матэрыяльную дапамогу ў будаўніцтве помніка. Аўтары — выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў Андрэй Асташоў і Уладзімір Піпін. Аўтар праекта лідскі архітэктар Юры Бірукоў. Выраб помніка даверыны творчай камерцыйнай фірме "Гама". Адкрыццё яго павінна адбыцца напярэданні дзесятай гадавіны са дня вываду войскаў з Афганістана.

Даведкі па тэл.: 2-49-22, старшыня Асацыяцыі Анатоль Шчокатаў ; 4-16-68, адказны за будаўніцтва Мечыслаў Леўдаровіч.

Р/р 3015000001290 , код 696 АСБ "Беларусбанк".

**Лідская гарадская рада БНФ "Адраджэньне" выказвае шчырае спачуванне сакратару рады Шчаблыкінай Таісіі Іосіфаўне з нагоды напаткаўшага яе гора смерці сына**

"Наша слова" рэпразантуе:

# Паэты ТБМ прапануюць

Вам кажу!
Не нясіце яе, як крыж,
У выжыллі сагнутых плеч
Не меўшы Хрыстовых сілаў,
Беларускасць нясіце, як крылы,
Беларускасць нясіце, як меч.
*Зміцер Цехановіч*

## Стаяў вякі ...

*На адраджэнне езуіцкага касцёла ў Менску*

Стаяў вякі, стаяў гады,
Стаяў на плошчы малады
Высока высіліся вежы,
І не трымаўся ён за межы,
Бо сэрцам вернікаў валодаў,
Для Менска быў ён домам родным.

Стаяў вякі, стаяў гады,
Служыў народу ён заўжды.
А ў час вялікае пакуты,
Калі трымалі край наш путы,
Ён з сынам - беларусам заадно
Скідаў абрыдлае варожае ярмо.

Стаяў вякі, стаяў гады,
Прыйшоў кастрычнік - век брыды,
Ускінуў рукі дагары —
Упаў зняморжаны стары,
Настаў жалобны час бяды.

Стаяў вякі — стаіць гады,
Стаіць ізноў ён малады.
Трывожным звонам заклікае,
Духоўнай сілай наталяе,
Прыходзь, браты, —
час памаліцца за грахі!

**Севярын Хутар. Менск.**

## ЯНА ПАКУЛЬ ЖЫВАЯ ...

Ідзе яна гаротная ў кашулі
з хатулькам.
За ёй няспынна сочуць
манкруты з "варанком".
Яна ідзе, а зграя цікуе кожны крок,
Каб не зайшла ў друкарню
і к людзям незнарок.
Ёсць у яе і спадчына —
цудоўны скарб вякоў:
Ад песень мілагучных,
да Слуцкіх паясоў,
А сёння яна змушана сабе куток шукаць,
Замест таго, каб людзям
багацце аддаваць.
"Старэйшы брат" ёй гвалтам
жыццё зрабіў такім,
Цяпер яна Ізаўрай — рабыняй перад ім.
Ён у садках дзіцячых,
і ў школах сёння ён,
За нашу талерантнасць,
напэўна, нам праклён.
Яна пакуль жывая, але ёй ўсё цяжэй,
Бо тым, хто ўсім кіруе,
"старэйшы брат" бліжэй.

**Фелікс Шкірманкоў,
Слаўгарад, Магілёўскай вобласці**

**Вольга БАЗЫЛЁВА**

* * *

Я так хачу, пайшоўшы ў іншы свет,
Ізноўку нарадзіцца ў Беларусі,
А больш нічога. Нават пад прымусам
Я не змяню сваё жаданне, не.

Навошта іншая краіна мне ?
У сэрцы ўжо пятнадцаць год каханне.
Балючым будзе нашае расстанне,
І рана ўжо ў вяках не зажыве.

Вярнуцца зноў, і зноў у родны Менск,
Ён стаў нібы паловай майго сэрца
Так, гэта так, мне гэта не здаецца,
Маёй душы не пераржыць замен.

Мы з Беларуссю, як адно жывое,
А без яе мне ўжо нідзе не жыць,
Балючым жалем сэрца затрымціць,
Бы зазвіняць званіцы за ракою.

Мы разумеем думкі між сабой,
Мы блізкія, мы родныя, сваячкі,
І я за гэта ўсёй душой удзячна,
І жыць магу я толькі разам з ёй.

## У Чырвоным касцёле.

У сценах гэтых святых
Уздымаецца вышай душа,
У сэрцы глухая імша
Кожны пільнуе ўздых.

Хочаш вер ці не вер,
Хочаш глядзі, не глядзі,
Толькі адчай не судзі,
А прапануй давер.

З белічы яркіх ікон
Вочы глядзяць чысцінёй,
Бы размаўляюць з табой,
Вядуць у нябачны паклон.

Недзе анёлы крылом
Сонца ўзнімаюць над дахам,
Сумны арган мроіць Бахам ...
Голас выводзіць псалом ...

Я зразумець не магу,
Чым гэты свет мяне вабіць.
Нейкай бясконцасцю, мабыць ...
Зноў абдымаю смугу ...

**г.Менск. 10 "А" клас гімназіі № 1**

**Анатоль Печкуроў**

## Беларусам называцца

Недзе ў небе над палямі
пяе птушка аб свабодзе ...
Ці пачуем мы яе ?
Недзе ў гушчары імглістым
зззяе кветка залатая ...
Ці ўбачым мы яе ?
Недзе ў нетрах нашай мовы
б'е крыніца залатая ...
Ці нап'ёмся мы з яе ?

Мы пачуем тую птушку,
мы ўбачым гэну кветку,
мы нап'ёмся з той крыніцы, —
калі будзем усміхацца,
і дзяцей кахаць і жонак,
і дарыць каханым кветкі, даравань
суседзям крыўды,
кепска не рабіць нікому,
быць для ўсіх і кумам, сябрам,
і наогул быць, як людзі ...
Каб пад небам і пад сонцам,
перад маткаю і бацькам,
перад белым усім светам
Чалавекам называцца,
называцца Беларусам ...
Мы пачуем тую птушку,
мы ўбачым гэну кветку ...
Мы нап'ёмся з той крыніцы,
што завецца Беларуссяй!

**Леанід Муштэнка,
мастак, рознарабочы**

## А трэба адчуць ...

Пакуль мы бяды не адчулі,
Дык ганьбім карэнні свае,
Калі ж паміраюць матулі, —
То меней Радзімы стае ...

Бо рвецца спрадвечная сувязь
Між тым, што было і што ёсць,
Балотам жыццё абярнулась.
Замест абяцанага — косьць ...

Матуля жывая — мы вечны.
Памрэ, а за ёю і мы ...
Чаму ж так жыве недарэчна,
Не розьнім свой кут ад турмы ?

Не просіць матуля нічога,
А толькі глядзіць і глядзіць
На сына, дачку і на Бога, —
І рвецца спрадвечная ніць.

Радзіма, як тая матуля, —
Згасае на нашых вачах.
Мы гора пакуль не адчулі.
А трэба адчуць — мо і жах!

г. Гомель



**Анатоль Шастаковіч, дацэнт Беларускай дзяржаўнай палітэхнічнай акдэміі**

**Новаму 1998-му**

Гады не злічыць: іх так многа, так многа,
І праходзяць яны чарадой, як заўжды.
Новы год скустракаем, праводзім старога
І варожым на шчасце, далей ад бяды.

Што сказаць пра старога, як час
абазначыць.
Не адменіш, хоць быў ён і добрым і злым.
А ці трэба яго без віны вінаваціць,
Калі сам вінаваты ў многім, ва ўсім.

Што песню сваю не спяваў і не слухаў,
Што мову бацькоў і дзядоў закапаў,
Што ў дзверы другіх папрашайкаю стукаў,
Што смецце з дарогі сваёй не змятаў.

Што возмеш на плечы малыя, маленькі ?
На радасць прыйшоў ты, а можа з бядой?
Дай сілу яму, голас родная зямелькі,
Вядзі па дарозе вякоў за сабой.

**СТАРЫЯ АКОПЫ**

У лесе сасновым зямлю працінаюць
Равочкамі ўюцца акопы старыя.
Забыліся людзі, грыбы тут збіраюць
І рэжуць на дровы сасонкі сухія.

Для іх гэта проста раўчук, ці прыгорак,
Дзе ўнучка збірае чарніцы, маліны.
Не знае дзяўчынка, што гэты пагорак
Жыццё ратаваў у ліхія гадзіны.

З пагорка насустрач свінцовай мяцелі
Салдат уставаў за цароў і Айчыну.
А кулі, шрапнелі ляцелі, свішчэлі
І білі пад сэрца салдата-хлапчыну.

Радзіма мая, ты ж уся ў акопах.
Зямелька твая — не зажыўшыя раны,
Якія відаць і ў палях і дарогах,
Крывёю паліты шнурок узараны.

Дзяўчынка мая, ты збіраеш чарніцы,
Пра тыя акопы нічога не знаеш.
А ямы з ракетай, дзе білі крыніцы ?
Чаму ж ты, матуля, ёй праўду не скажаш.

**г. Менск**

О. словы родныя зямлі!
Вам гэтак дасталося ...
І нішчылі — а не змаглі —
Раслі вы, як калоссе.

Таму і свецяцца яны
На вуснах Беларусі.
Празрыстыя.
І без маны.
... Я вамі ганаруся!

**Ірына Навуменка, г. Масты**

# Метафара

Метафара — больш,
чым плады на дрэве,
Зоркі у небе —
Яна.

* * *

Гняздо без птушанят —
Што вершы
Без метафар.

Па промні сонца з глыбінь сусвету
Метафара спускаецца да нас ...
І тым жа шляхам з зямлі ідзе яна.

* * *

Метафару абараняць не трэба:
Яна сама сябе і нас усіх
Абараніць заўсёды здольна.

Па глыбіні метафары
Відаць і глыбіня
Душы.

* * *

На ўсё садзіцца пыл,
Усё іржою пакрываецца ...
Апроч метафары.

Да метафары
Трэба яшчэ
Дарасці.

* * *

У Пегаса
Падкова —
Метафара

**Яўген Гучок,
г. Менск**

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня,
Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля,
Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко,
Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 25. 05. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова №1436.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.